ТЕЛЕПРОГРАММА НА НЕДЕЛЮ

№ 112 (1675)

Субота, 21 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +14...+16, без ападкаў, уначы — +9...+11, дождж; у Брэсце ўдзень — +12...+14, уначы — +10...+12, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, без ападкаў, уначы — +9...+11, дождж; у Гомелі ўдзень — +15...+17, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +14...+16, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



РЭЗАНАНС

## Хто ў кабале — немцы ці беларусы?

Выступаючы ў Брэсце перад удзельнікамі рэспубліканскага семінара "Інвестыцыйная палітыка дзяржавы", А. Лукашэнка агучыў сенсацыйную навіну: аказваецца, на працягу апошніх гадоў Беларусі было прапанавана замежных інвестыцый на дзесяткі мільярдаў долараў, ад якіх *"кіраўніцтва краіны вымушана было адмовіцца". "Інвестыцыі могуць быць розныя,* — лічыць Лукашэнка. — *Ёсць такія інвестыцыі, што, калі іх возьмеш, трапіш у кабалу... Гэта, у асноўным, крэдыт, гэта купля нашых прадпрыемстваў за бясцэнак. Трэба дзейнічаць вельмі асцярожна".*

"Асцярожнасць" уладаў прывяла да таго, што сёння нашы прадпрыемствы пастукова пераўтвараюцца ў музеі з маральна састарэлай тэхнікай, а таксама няякаснай і адначасова вельмі дарагой прадукцыяй.

Цікавы вопыт у гэтым сэнсе прадстаўляе Германія. Пасля падзення Берлінскай сцяны некаторыя прадпрыемствы ў былой ГДР (часцей за ўсё рэальныя ці патэнцыяльныя банкроты) прадаваліся ўладамі прадпрымальнікам з Заходняй Германіі за сімвалічны кошт — адну дойчмарку. Потым старая тэхніка з прадпрыемства звычайна выкідвалася, завозілася новая. Часам прадпрыемства пачынала вытворчасць іншай, запатрабаванай у пакупніка прадукцыі. Менавіта так зрабілі, напрыклад, на ўсходнегерманскім аўтазаводзе "Вартбург", дзе замест вядомых многім мінчанам аднайменных "мыльніц" пачалі вытворчасць якасных і камфортных аўтакараблёў маркі БМВ.

Сёння на былых ГДР-аўскіх прадпрыемствах, якія ў свой час, па словах Лукашэнкі, "трапілі ў кабалу", атрымліваюць годную зарплату, а склады не завалены нерэалізаванай прадукцыяй. І ніхто з іх супрацоўнікаў, шчыра кажучы, не адчувае сябе рабом...

**Алесь СЛІЧ.**

## Беларускі хакей будзе «падымаць» трэнер чэмпіёнаў свету?

**Пасля няўдалага выступлення хакейнай зборнай Беларусі на апошнім чэмпіянаце свету, калі наша каманда "вылецела" з мацнейшага дывізіёна, у трэнерскім штабе прайшлі кадравыя перастаноўкі, якія, магчыма, працягнуцца.**

Як паведаміў учора карэспандэнту "Народнай волі" генеральны сакратар Федэрацыі хакея Беларусі Аляксандр Лешчык, напрыканцы гэтага месяца ў Мінск для перамоў з кіраўніцтвам федэрацыі павінен прыехаць вядомы славацкі трэнер **Ян Філц** (на здымку), які ў 2002 годзе прывёў зборную Славакіі да звання чэмпіёнаў свету.

Напярэдадні спадару Філцу ў неафіцыйнай абстаноўцы прэзідэнт беларускай хакейнай федэрацыі Уладзімір Навумаў прапанаваў стаць кансультантам нашай зборнай, аднак, відавочна, што нейкія канкрэтныя пытанні будуць вырашацца падчас сустрэчы. Зараз Ян Філц працуе каардынатарам працы ўсіх славацкіх зборных.

Нагадаем, што яшчэ раней мелі месца чуткі аб тым, што на пасаду галоўнага трэнера нашай лядовай дружыны запрашалі не менш вядомага чэшскага трэнера Івана Глінку, аднак, мяркуючы па ўсім, бакі не сышліся ў грашах. Як будзе на гэты раз?

**Алесь СІВЫ.**

22 ИЮНЯ 1941 ГОДА НАЧАЛАСЬ ВЕЛИКАЯ ОТЕЧЕСТВЕННАЯ ВОЙНА

# Кто виноват?

***22 июня 1941 г. в 4 часа утра артиллерия и авиация фашистской Германии обрушила бомбовые удары по железнодорожным узлам, аэродромам, мостам и переправам, по группировкам войск, располагавшимся в приграничных районах Советского Союза. В Беларуси бомбардировкам подверглись Брест, Гродно, Кобрин, многие населенные пункты. Вслед за этим вглубь страны устремились германские танковые армады и моторизированные дивизии. Началась самая тяжелая, самая жестокая и кровавая война, вошедшая в историю советских народов как Великая Отечественная...***

Было бы неверным считать преступные ошибки одного Сталина, пусть вкупе с его ближайшим окружением. Изрядная доля вины ложится на плечи военного руководства. Чего стоят, например, свидетельства фронтовых командиров и утверждение начальника артиллерии Красной Армии П.Н.Воронова о том, что он не знал, есть ли у нас "хоть какой-нибудь оперативно-стратегический план на случай войны". Тот же Воронов рассказывает о встрече в Москве за несколько дней до войны с командующим войсками Западного особого военного округа (ЗапОВО) генералом армии Д.Г.Павловым. "Все у меня нормально, — радостно сообщил он Воронову. — Вот воспользовался спокойной обстановкой, приехал в Москву по разным мелочам".

Покинув в 1939 году так называемую "линию Сталина", войска не создали новых укреплений. Только 1000 из 2500 бетонных дотов были оснащены артиллерией. План постройки 190 новых аэродромов в западных районах СССР был одобрен лишь в феврале 1941 года. А НКВД начал работу над расширением всех имеющихся сразу, в результате чего большая часть самолетов была переведена на гражданские аэродромы, расположенные близко к границе и слабо защищенные.

Войска не получили предварительного уведомления. Чего стоит потеря 1811 самолетов Западного особого округа в первый же день войны — причем почти всех на земле! Но еще важнее другое — обстановка всепроникающего страха перед репрессивной машиной буквально парализовала наших офицеров и солдат. Она резко ограничила их способности к гибкому маневру, право на личную инициативу, доверие друг к другу, без которых невозможно ведение современной войны, где каждый должен брать на себя ответственность в сложных обстоятельствах и доверять решениям, принятым соратниками.

Сталинизм демонстрировал жестокость, наказывая за малейшие проступки, и при этом ослаблял лучшие качества нашего солдата: способность не пасовать перед обстоятельствами, умение полагаться на себя, действовать автономно, одновременно веря в коллективную борьбу. Несчастьем стала изоляция страны от остального мира. Борьба против "поклонников Запада" обернулась неумением армии извлечь уроки из Польской и Западной кампаний германской армии. Страх не позволил прямо указать на самое слабое место наших войск — отсутствие надежной связи и координации (а это подразумевает наличие радио- и телефонной связи, постоянной авиационной разведки, действенной службы тыла).

Сегодня опубликовано много данных о сталинском терроре в Вооруженных силах. Но точных сведений до сих пор нет. Считается, что в предвоенный период репрессировано 44 тысячи человек командного состава, свыше половины офицерского корпуса. По данным К.Симонова, было уничтожено 80% высших и 50% старших командиров. Генерал Д.Волконогов утверждал, что на войне погибло 600 советских генералов, а в процессе довоенных репрессий мы потеряли в три раза больше военных в званиях, приравненных к генеральскому.

Во всяком случае, когда Сталин упрекнул Ворошилова за неудачи в советско-финляндской войне, тот, всегда беспрекословно соглашавшийся с вождем, не выдержал и воскликнул: *"А с кем воевать-то?! Все думающие командиры расстреляны, а новых нет!"*. Основным аргументом Гитлера для успокоения собственных запаниковавших генералов перед нападением на СССР были слова: *"Красная Армия обезглавлена... она ослаблена, как никогда. Нужно воевать, пока кадры не вырастут вновь".*

Как стало известно уже после войны, Гитлер, зная о прокатившихся по Красной Армии репрессиях 1937—1939-го годов, затребовал доклад от своих разведорганов о качестве командного состава РККА. За полтора месяца до начала войны на основании доклада полковника Кребса, военного атташе Германии в СССР, других данных фюреру доложили: русский офицерский корпус ослаблен не только количественно, но и качественно... Противник не без основания включал в число исключительно благоприятных факторов для Германии фактическую замену целых звеньев военной системы новыми руководителями... Это не просто поощрило, но и прямо подтолкнуло Гитлера к форсированию событий.

Начальник германского генштаба генерал фон Бек в 1938 году писал: "С русской армией можно не считаться как с военной силой, ибо кровавые репрессии подорвали ее дух, превратили в инертную машину".

*"Первоклассный состав советских высших военных кадров истреблен Сталиным в 1937 году,* — говорил Гитлер генералу Кейтелю. — *Таким образом, необходимые умы в подрастающей смене еще пока отсутствуют".* А на совещании высших нацистских генералов по поводу подготовки нападения на СССР 9 января 1941 года он заявил: *"У них нет хороших полководцев".*

Нельзя не согласиться с К.Симоновым и маршалом А.М.Василевским. Когда писатель сказал, что без тридцать седьмого не было бы поражений сорок первого, маршал ответил, что *"без тридцать седьмого года, возможно, не было бы вообще войны в сорок первом году. Гитлер не решился бы ее начать".*

*(Окончание на 2-й стр.)*

ПЫТАННЕ РУБАМ

## Шанаваць Быкава забаронена

Не ўдалося належным чынам адзначыць юбілей народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ягоным землякам на Віцебшчыне, дзе нарадзіўся і даволі доўга жыў будучы славуты майстар прозы.

Магчыма, не ўсе ведаюць, што ў вёсцы Бычкі Кубліцкага сельсавета Ушацкага раёна дагэтуль стаіць родная хата Васіля Быкава, дзе ён жыў у маленстве і юнацтве, дзе, ужо дасягнуўшы сусветнай славы, часта гасцяваў у сястры. Адсюль Быкаў ад'язджаў у Віцебск вучыцца, сюды адрасаваў франтавыя лісты, якія, дарэчы, захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

Родная хата Васіля Быкава павінна быць узята пад ахову дзяржавы як аб'ект айчыннай культурнай вартасці, бо яна звязана з жыццём і творчасцю народнага пісьменніка нашай краіны — такім быў сэнс заявы, накіраванай старшынёй Кубліцкага сельсавета Аляксандрам Кухтам у Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Аляксандр Рыгоравіч лагічна палічыў, што калі на Ушаччыне створана і прымае наведвальнікаў хата-музей Петруся Броўкі, то чаму не зрабіць тое ж самае з хатай другога народнага пісьменніка, сына той жа Ушацкай зямлі?

Адказу са сталіцы Кухта не атрымаў. А калі спецыяліст па ахове помнікаў упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама Ніна Сулецкая, завітаўшы па справах у згаданы Дэпартамент, пацікавілася лёсам заявы з Кублічаў, то ёй параілі "падмацаваць" зварот старшыні сельсавета хадайніцтвамі афіцыйных органаў або грамадскіх арганізацый. Дарэчы, закон такіх "падмацаванняў" не прадугледжвае. Згодна з законам, прапанову аб прысваенні пэўнаму аб'екту статусу помніка мае права ўносіць любы грамадзянін.

Тым не менш у падтрымку заявы Аляксандра Кухты ў Мінск былі накіраваны аналагічныя па змесце хадайніцтвы ад упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, ад абласной Рады Таварыства беларускай мовы і ад Рэспубліканскага фонду культуры.

Але і гэта не дало вынікаў.

І тут міжволі нараджаюцца думкі аб тым, што справа тармозіцца толькі з-за нядобразычлівага стаўлення сучаснага афіцыйнага рэжыму Беларусі да асобы Васіля Быкава.

Прыйдзе час, калі на радзіме пісьменніка паўстануць помнікі гэтаму выдатнаму сыну Віцебшчыны, а вось ягоныя чыноўныя нядобразычліўцы будуць забытыя ўсе да аднаго.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПРИЕМ

## Петра Кравченко обходили стороной

*Богата все же Великобритания. В честь ее Величества Королевы Елизаветы II страна устраивает пышные приемы по всему свету. Вот и в Минске по этому поводу звенели бокалы с шампанским, подавались золотистые шашлычки и всякие другие деликатесы.*

В торжестве, устроенном посольством Великобритании в шикарном ресторане "Журавинка", участвовали пару сотен человек. От официальных властей присутствовал заместитель министра иностранных дел господин Сычев, который выступил почему-то не на белорусской мове, а на английской без перевода. Впрочем, дежурные слова нашего чиновника были понятны всем.

Уже в который раз на дипломатических приемах замечается экс-посол Беларуси в Японии Петр Кравченко. При этом замечается и то, что многие уважаемые люди обходят его стороной. Видимо, вспоминая то, как он, будучи секретарем Минского горкома партии, воевал с бэнэфовцами, а затем, став министром иностранных дел, считался одним из приближенных Вячеслава Кебича. Когда Лукашенко отказал П.Кравченко в портфеле, стал чуть ли не главным оппозиционером. Но не надолго. С помощью высокопоставленных московских начальников выпросил у Лукашенко пост посла Беларуси в Японии. После скандального возвращения обещал повести решительную войну с режимом, но молчит, словно воды в рот набравши. Не исключено, ожидает новой должности.

**Федор КОЗАК.**

## «...Загад аб прызначэнні Т.Шчарбачэвіч можна адмяніць»

У Адміністрацыі прэзідэнта прынялі бацькоў вучняў Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. У сустрэчы з супрацоўнікам Адміністрацыі Мікалаем Шаўцовым узялі ўдзел члены бацькоўскага камітэта ліцэя Алена Санько і Сяргей Занкевіч.

Як паведаміў БелаПАН С.Занкевіч, "мы расказалі аб сітуацыі ў ліцэі ў сувязі з прызначэннем у навучальную ўстанову новага, непрымальнага для нас кіраўніка і заявілі: галоўная задача бацькоў заключаецца ў тым, каб нашы дзеці вучыліся ў гэтым унікальным ліцэі, калі ж мы, хто размаўляе на беларускай мове і паважае сваю краіну, з'яўляемся чужымі для ўлады, то няхай нас — беларусаў — абвесцяць нацыянальнай меншасцю ў Беларусі. Але калі дзяржаве неабходна інтэлектуальная эліта, то павінны быць вырашаны праблемы, што ўзніклі ў сувязі з прызначэннем у ліцэй новага кіраўніка Тамары Шчарбачэвіч".

Бацькі выказалі гатоўнасць да дыялогу з уладамі наконт кандыдатуры дырэктара ліцэя. "На гэтую пасаду ў нас ёсць свая кандыдатура аўтарытэтнага і прафесійнага педагога. Калі ж на вагі пастаўлены лёс больш як 200 ліцэістаў і асабістыя амбіцыі новага кіраўніка навучальнай установы або кагосьці яшчэ, то загад аб прызначэнні Т.Шчарбачэвіч можна адмяніць", — сказаў С.Занкевіч.

**Марат ГАРАВЫ.**

## У суботу, панядзелак і заўжды — разам!

*Нагадваем: у панядзелак апошні дзень падпіскі на другую палову 2003 года.*
*Застацца без "Народнай волі" — застацца без праўды!*
*"Народная воля" — газета для народа!*

### Будзем разам!

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі ______ руб. | |

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

## На третий срок Лукашенко толкают зловредные недруги

***Итак, Александр Лукашенко фактически огласил программу продления президентских полномочий. Причем сделал это как истинный гений, парадоксов друг. Оказалось, что его просто-таки вынуждают пойти на эту самую, как ее, пролонгацию. Можно сказать, толкают политические недруги.***

***Дело было на громком совещании по единой валюте. Тема нашествия российского рубля, поставившая на уши прогрессивную общественность, дала Лукашенко эффектный эмоциональный фон для ряда далеко идущих заявлений. И валюта тут — постольку поскольку. Ведь известно, что самая дорогая валюта — это власть.***

*Вчитаемся в сообщение пресс-службы главы государства. "...Президент затронул еще один домысел, фигурирующий в последнее время в СМИ, — о возможности продления его полномочий посредством референдума. Александр Лукашенко заявил, что в Беларуси президент будет избираться только народом. На референдуме граждане могут лишь расширить круг лиц, которым будет предоставлено право баллотироваться на эту высокую государственную должность, разрешив занимать ее более двух сроков. Но стать президентом можно только через всенародные открытые выборы".*

На первый взгляд может показаться, что глава государства выступил с неким опровержением. Заклеймил ***"фигурирующие домыслы"***. На самом деле тут использован прием, который в логике называют подменой тезиса. В фольклоре это выражается присловьем про Фому и про Ерему. Ведь никто из политических оппонентов и не выдвигал столь фантастичной версии — что референдум якобы автоматически продлит полномочия официального лидера. Это было бы чересчур даже для нашего царства-государства — все-таки не Ирак времен Хусейна. Тот в прошлом году, действительно, плебисцитом (точнее — его имитацией) удлинил свое правление на семь лет. Помните, *белорусский коллега еще поздравил тогда багдадского правителя со стопроцентным результатом?*

Касательно же нашей внутренней ситуации политики и аналитики прогнозировали, что на всенародное голосование будет вынесен лишь вопрос о снятии лимита в два срока правления. Именно это ограничение, заложенное в нынешнюю конституцию, и закрывает пока Александру Лукашенко путь к участию в следующих выборах (по графику — в 2006 году). Так что смысл референдума — снять формальный барьер. А дальше — это уж дело техники. Не впервой одерживать элегантную победу.

И вот эту схему продления полномочий Александр Лукашенко, по сути, подтвердил. Вдумайтесь, что стоит за фразой о расширении круга "лиц, которым будет предоставлено право баллотироваться на эту высокую государственную должность, разрешив занимать ее более двух сроков". Множественное число тут — лишь изящный эвфемизм. В обозримой исторической перспективе этот пассаж касается лишь одного из почти десяти миллионов граждан Беларуси. Никто больше в президентском кресле не сидел ни дня.

Подобного заявления аналитики ждали. Но вряд ли кто предвидел, что перспектива пролонгации полномочий будет подана широкой публике под столь оригинальным и пикантным соусом. Нынешний официальный лидер изобразил дело так, что на третий срок его толкает... оппозиция! Вроде как сам и не рвался бы, но если всякие подрывные элементы будут и дальше дестабилизировать ситуацию, не сможет он бросить страну на произвол судьбы.

И вот в чем фокус. Теперь какие бы ходы ни сделала оппозиция, ее карта рискует оказаться битой. Если оппоненты прикусят язык, затихнут как мышь под веником — значит, власть спокойно может проворачивать любой сценарий. Если же политические противники режима затеют бучу против референдума, пойдут на массовые акции и так далее, можно негодующе воскликнуть: ну что я вам говорил! Ведь как в воду глядел — дестабилизируют, чертовы дети, ситуацию! И — с чистой совестью идти на продление полномочий, потому как нельзя лишать Отечество твердой руки в смутную годину. Оцените блеск парадокса: к продлению полномочий первого президента толкают как раз те, кто спит и видит, как бы выбить его из кресла!

Бесспорно, совещание по поводу единой валюты стало самой мощной пиар-акцией Лукашенко за последние месяцы — особенно на фоне иракского фиаско. Теперь он эффектно атаковал и Кремль (что, думали, уже в угол загнали своим рублем?), и внутренних оппонентов (сами провоцируете на третий срок, господа хорошие!). Но есть одна опасность: а вдруг обиженные противники сомкнутся? Если Москва пойдет ва-банк, то происки Вашингтона с его бумажными декларациями и мелкими грантами, право, покажутся детским лепетом.

А пока — ждите референдума, который окончательно опровергнет ***"фигурирующие домыслы"***.

***

### ДОСЛОВНО

Александр Лукашенко: *"Я хочу просто определенно сказать, что если оппозиция или другие, может, кто-то из нашей команды будет создавать в стране дополнительную нестабильность и страна будет двигаться динамично не к спокойствию, а в обратном направлении, то вот это фактор, который заставит меня более активно работать на то, чтобы остаться у власти".*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

Народная Воля
21 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.

# Кто виноват?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Репрессии против командного состава не только обезглавили Вооруженные силы, но и серьезно подорвали моральный дух и состояние дисциплины в армии в целом. Авторитет командиров резко упал. Им не верили, и их приказы объявлялись вредительскими. Процветали доносы, которые всячески поощрялись. Органы НКВД вмешивались повсюду, подменяя командиров. Развилось пьянство, самовольные отлучки, дезертирство.

К началу войны Красная Армия и Военно-морской флот пришли с почти полностью истребленным основным костяком армии. В целом в период сталинских репрессий было истреблено высшего и старшего командного состава больше, чем мы потеряли за все четыре года войны.

Воины показали готовность отдать жизнь. Но чтобы соединить передовую технику и самоотверженность солдата, нужен был третий элемент — умелое управление войсками, что означало самостоятельность подразделений при общей координации их действий фронтовыми штабами. Потребовался кровавый опыт, для того чтобы найти систему эффективного управления войсками, чтобы выделились независимые характеры, самостоятельные командиры всех рангов.

Главные события развивались на Западном фронте. Здесь командующий генерал армии Павлов ввел в действие резервные силы уже 25 июня, чтобы создать оборонительную линию Лида—Слоним—Пинск. Павлов был полон решимости преградить путь немцам на Москву, позади стояла резервная армия маршала Буденного.

Немцы действовали стремительно. Танковая группа Гудериана пробилась через Барановичи, а севернее 3-я танковая группа (Гот) пошла к тому же Минску через Вильнюс—Молодечно. Павлову ничего не оставалось, как отдать приказ отступать на приготовленную оборонительную линию. Уже 23 июня атакующие немцы вошли в Гродно и пересекли Неман. К 26 июня лучшие командиры Красной Армии стали жаловаться на нехватку горючего и боеприпасов.

Утром 25 июня офицер связи обнаружил у Барановичей три бронированные машины, в средней сидел командующий фронтом генерал Павлов. Он еще не потерял надежды: Западный фронт несколько отступает, но под его прикрытием восточнее, на Днепре, концентрируются резервные войска. Но до Днепра было еще далеко, а в предполагаемом слуцком укрепрайоне не оказалось ни войск, ни вооружений — их несколько дней тому назад, перед самой войной, отправили в Брест.

В семь часов вечера 25 июня немецкая танковая колонна была обнаружена в 50 километрах к северо-западу от Минска. Утром следующего дня Павлов перевел свой штаб в несчастливый (память о Ставке Первой мировой войны) Могилев. Минск уже представлял собой скопище стремящихся на восток автомобилей и находящегося в шоке населения, смятение и всеобщие поиски субординационных связей. В этот день войскам вокруг Минска оставался еще 50-километровый коридор, позволявший вырваться из столицы республики на восток.

Не знакомый с удачей Тимошенко уже знал о катастрофических событиях на Западном и Северо-Западном фронтах. Вечером 26 июня маршал собрал офицеров инженерного корпуса и приказал им взрывать все мосты, ведущие на восток, разрушать ведущие в глубину страны дороги, всячески препятствовать продвижению немцев. Прибывший из Генерального штаба генерал Маландин мог сообщить только "самую общую" информацию.

Никто не знал, где имелись мины и сколько их. Офицеров поразило, что Тимошенко не упомянул в своем ориентировочном сообщении товарища Сталина. В штаб-квартиру Западного фронта Тимошенко послал Шапошникова и Ворошилова, а Буденный получил приказ подготовить оборонительную линию от Западной Двины по Днепру. Из Москвы прибыли три специальных подразделения по уничтожению мостов и любых оставляемых ценностей. Бдительная охрана одного из мостов приняла их вначале за немецких диверсантов.



*Центр Минска в первые дни оккупации.*

Гот и Гудериан сомкнулись в Минске 28 июня, оставляя за собой грандиозную массу оказавшихся в окружении советских частей и соединений. А потерявший связь с реальностью Павлов именно 28 июня приказал уже невозможное: *"Нарком и Военный совет Западного фронта подтверждают 13-й армии, что Минский укрепленный район должен удерживаться даже под угрозой окружения".*

Реальность же была иной. Гордость Павлова — 6-й механизированный корпус — был разбит, лишь одна дивизия вырвалась к востоку от Минска. Генерал Болдин объединил ряд частей и, не зная, где линия фронта, прорывался по компасу на восток. Павлов приказал держать оборону по Березине "так долго, насколько это возможно".

Очевидцы описывают потрясенного событиями Павлова (глаза впали, тело исхудало), отчитывающего подчиненных за слишком легко сданные города. Рано утром 29 июня в Могилев прибыл А.И.Еременко. Ему сказали, что Павлов завтракает в лесной столовой. Еременко положил перед Павловым приказ о его снятии, на что тот спросил: "Куда мне идти?" И услышал ответ: "В Москву". Последовала горькая беседа с упреками и безнадежными вопросами.

Тимошенко прислал приказ: *"Остановите германское наступление".* Неудачи на Березине стоили Еременко его поста. 2 июля 1941 года Сталин назначил Буденного и Еременко своими заместителями, а во главе важнейшего, Западного, фронта поставил наркома обороны Тимошенко.

Германская авиация впервые с начала войны отметила действенные попытки создать оборонительный вал — между Западной Двиной и Днепром. Немецкие самолеты-разведчики и данные радиоперехвата зафиксировали прибытие и сосредоточение свежих советских дивизий между Оршей и Витебском. Новый фронт находился примерно в 250 километрах от старой границы.

Итак, первая операция немцев на Восточном фронте завершилась примерно к первой декаде июля 1941 года. Германская армия замкнула у Минска свои первые гигантские клещи. По их данным, в это первое большое окружение попали 288 тысяч военнослужащих, было захвачено 2585 танков.

Попасть в плен для солдат и офицеров Красной Армии было величайшим несчастьем — германский плен означал для советских солдат и офицеров невероятные лишения, а часто — смерть. Но и выход с боями имел жестокие последствия. НКВД сурово проверял вышедших, спрашивая, как они могли попасть в плен живыми.

Жестоко платил Сталин и за промахи, за некомпетентность, за растерянность, за непонимание своего места и задачи в огромной политической и военной игре без правил. Подвозивший Павлову взрывчатые вещества полковник Старинов видел арест генерал-полковника и людей из его окружения. Теперь "никто не мог быть уверенным в будущем, и все хорошо помнили 1937 год".

В битве на Западной Двине дело решили 200 германских штурмовиков, нанесших беспощадный удар по танкам и укреплениям правого фланга советского Западного фронта. Битва в городских кварталах Витебска была жестокой. 10 июля немцы активизировали свой правый фланг — Гудериан рванулся к Днепру.

Находившийся неподалеку Шапошников порекомендовал Сталину начать создавать новый Резервный фронт. Косвенно Шапошников признавал, что судьба Западного фронта Тимошенко решена — он обречен. За первые две недели июля группа армий "Центр" захватила под Оршей и Смоленском еще 300 тысяч советских военнопленных...

**Игорь КУЗНЕЦОВ,**
**кандидат исторических наук.**

ПУЛЬС

## Купалаўскі ў фінансавым крызісе

У тэатральным сезоне 2002/2003 года ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы з-за фінансавых прычын паставілі не вельмі шмат спектакляў. Пра гэта заявіў мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі.

Паводле яго слоў, тэатр сам сябе субсідзіруе, "за выключэннем спектакляў, на якія выдзяляецца або прэзідэнцкі грант, або паступае заказ ад Міністэрства культуры".

Тым не менш, адзначыў мастацкі кіраўнік, у гэтым сезоне ў тэатры імя Янкі Купалы адбыліся прэм'еры спектакляў "Згублены рай" і "Дзіўная місіс Сэвідж" на вялікай сцэне, "Мы і Яно", "Беларусь у фантастычных апавяданнях", "Я не пакіну цябе" на малой сцэне. 30 чэрвеня плануецца апошняя прэм'ера сезона на вялікай сцэне — "Каханне ў стылі барока" — паводле п'есы ўкраінскага драматурга Яраслава Стэльмаха.

Як паведаміла загадчыца літаратурнай часткі тэатра Марына Бартніцкая, у гэтым сезоне артысты тэатра актыўна ўдзельнічалі ў міжнародных тэатральных фестывалях, адкуль вярталіся з узнагародамі. Напрыклад, на міжнародным фестывалі "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Гомелі актрысы Марыя Захарэвіч і Наталля Гайда атрымалі дыпломы за "За лепшую жаночую ролю" ў спектаклі "Я не пакіну цябе". На міжнародным фестывалі камерных спектакляў у Маскве Н.Гайда атрымала дыплом "За лепшую жаночую ролю". На фестывалі "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Бранску за выкананне ролі Джона ў спектаклі "Крывавая Мэры" акцёр Мікалай Кірычэнка атрымаў спецыяльны прыз "За акцёрскае майстэрства". З вялікім поспехам на фестывалі ў Кіеве прайшоў паказ спектакля "Згублены рай".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## У Мінску хлебны квас хутка знікне?

Магутнасці прадпрыемстваў канцэрна "Белдзяржхарчпрам" дазваляюць выпускаць 4,5 мільёна дэкалітраў хлебнага квасу ў год, аднак зараз гэты напой не запатрабаваны гандлем. Пра гэта заявіла галоўны спецыяліст канцэрна "Белдзяржхарчпрам". У Мінску ёсць магчымасць штодзённа пастаўляць на прылаўкі гандлёвых кропак да 100 тон квасу. "Але калі ў маі мы выраблялі 45—55 тон у дзень, то зараз, з прыходам пахаладання, мы вырабляем толькі 20—28", — адзначыла Валянціна Варанчук, галоўны спецыяліст канцэрна "Белдзяржхарчпрам".

Прычыны нізкага гандлёвага попыту на квас звязаны, паводле слоў спецыяліста, з адсутнасцю ў прадпрыемстваў гандлю бочак. Колькасць ізатэрмічных ёмістасцей за апошні час скарацілася ўтрая. "Калі раней было каля 300 кропак па продажы хлебнага квасу, то зараз засталося толькі дзесьці 90 кропак, а гэта прадукт практычна цалкам натуральны і вельмі карысны", — падкрэсліла прадстаўнік "Белдзяржхарчпрама".

**Аляксей АРЭШКА.**

## Чакаецца нашэсце беларусаў у Польшчу

**18 і 19 ліпеня Польшчу чакае вялікае нашэсце беларусаў. А прычынай гэтаму з'яўляецца рок-фестываль "Басовішча-2003"**

Сёлетні фэст — чатырнаццаты па ліку. Арганізаваны ён быў з мэтай раскруткі беларускага року яшчэ ў 90-м годзе Беларускай асацыяцыя студэнтаў у Польшчы.

Адбываецца ўсё так. На Беларусі ладзяцца адборачныя туры сярод рок-гуртоў, з іх адбіраюцца тыя, хто паедзе ў Польшчу. Сам фэст доўжыцца дзве ночы. У першую высвятляецца пераможца з ліку польскіх і беларускіх выканаўцаў, а ў другую — выступаюць госці фестывалю.

У гэтым годзе ў Польшчу паедуць такія гурты, як "IQ48", "Тэзаўрус" і іншыя. Усіх прэтэндэнтаў на паездку было каля 40, з іх журы выбрала восем пераможцаў.

Суддзямі на адборачных канцэртах былі: музыкальны крытык Вітаўт Мартыненка, кіраўнік гурта "ULIS" Вячаслаў Корань і прадстаўнікі БАСа. Дарэчы, Мартыненка і Корань судзяць адборачныя канцэрты ўжо не першы год.

Рок-фестываль "Басовішча-2003" пройдзе ў Гарадку пад Беластокам.

**Павел АРЦЮШКЕВІЧ.**

## У Баранавічах усё больш людзей не плацяць за камунальныя паслугі

За пяць месяцаў гэтага года ў Баранавічах больш чым удвая ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўзрасла колькасць неплацельшчыкаў за камунальныя паслугі. 156 абанентаў маюць запазычанасць за газ, 30 з іх за даўгі адключаны ад газазабеспячэння. Больш за сотню гараджан завінавацілі за цеплавую энергію. Прычым у ацяпляльны сезон да 40 даўжнікоў былі ўжыты крайнія захады — адключэнне ацяплення.

Каля 20 працэнтаў гараджан не плацяць за кватэру па два і больш месяцаў. На думку спецыялістаў ЖРЭУ, большасць з іх не разлічацца з даўгамі ніколі, бо папросту не маюць для гэтага грошай. Неплацельшчыкі — гэта пераважна шматдзетныя, няпоўныя сем'і і пенсіянеры.

Хаця заканадаўча вызначаны механізм барацьбы з хранічнымі даўжнікамі — суд, а потым высяленне ў кватэру меншай плошчы і без выгодаў — прымяняць яго можна не да ўсіх. Паводле слоў работнікаў ЖРЭУ, ні ў каго не падымаецца рука выселіць з добраўпарадкаванай кватэры маці з трыма дзецьмі, тым больш, што такія крайнія захады праблему не вырашаць.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

*Геннадий ТУМИЛОВИЧ:*

# «Пока я не готов отвечать на вопросы...»

Любимчик публики и журналистов, вратарь сборной Беларуси по футболу Геннадий Тумилович отправлялся в Инсбрук в хорошем расположении духа, несмотря на полученную "баранку" от голландцев. В дорожку с собой он решил прихватить, наверное, половину запасов табачной продукции в магазине "Дюти-фри" на таможне. Упаковав все это в сумку, он долго объяснял таможеннику, что не занимается спекуляцией, а честно и достойно играет за свою страну. И в этом, бесспорно, он прав. Сколько раз он выручал нашу команду, защищая ее самый последний рубеж.



Но тут пошли слухи что после провальной игры с Австрией Эдуард Малофеев, среди других, сильно наехал и на Тумиловича. В пылу эмоций он что-то ему наговорил. Что — догадаться не сложно. Малофеев мог обвинить игрока в предательстве. Досталось также и Валентину Белькевичу. Главный тренер чуть ли не потребовал от них вернуть деньги, потраченные федерацией на билеты за перелет. Мол, слетали, туристы...

— Я такого не слышал, — сказал мне по телефону Тумилович.

**— Но улетел ты в свой бельгийский "Антверпен" отдельно от сборной?**

— А зачем мне лететь со всеми, если Антверпен рядом?

**— Игрой своей доволен?**

— Ты что — издеваешься?!

**— Нет!**

— Ты все жареного ищешь, а я ничего говорить не хочу. Ты лучше у Малофеева спроси, каких он гадостей наговорил. Да за такие обвинения... Пока я не готов отвечать на вопросы. Извини.

Гена был явно расстроен. Еще бы! А что тут скажешь?

**Ольга РОМАНЮК.**

## Валчкоў праляцеў...

*Беларускі тэнісіст Уладзімір Валчкоў выбыў з барацьбы ў адзіночным разрадзе турніру ў Нотынгеме (Вялікабрытанія) "The Samsung Open" з прызавым фондам 380 тыс. еўра.*

У першым крузе ён перамог амерыканца Джасціна Джаймелстоба — 6:1, 7:5, у другім — англічаніна Алекса Багдановіча, а ў 1/4 фіналу ва ўпартай барацьбе саступіў другому прадстаўніку Вялікабрытаніі Грэгу Руседскі — 6:4, 6:7 (4:7), 6:7 (4:7).

У парным разрадзе У.Валчкоў выбыў ужо ў першым крузе, прайграўшы разам з карэйцам Х'юн Тайк Лі аўстралійцу Джошуа Іглу і амерыканцу Джарэду Палмеру — 5:7, 4:6.

Яшчэ адзін беларускі тэнісіст Максім Мірны ў адзіночным разрадзе дайшоў да другога круга. Спачатку ён перамог Робі Джынепры (ЗША) — 6:3, 6:4, а затым аказаўся больш слабым за мараканца Ішара Аразі — 6:7 (4:7), 2:6. У парным разрадзе М.Мірны не выступаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Гуляй, Віка!

***Пазаўчора ўвечары пасля тэлефоннага званка з Чарнігава ў камісіі па развіцці жаночага футбола Асацыяцыі футбола Беларусі перапалашыліся не на жарт — месяц, як знікла беларуская футбалістка...***

Прадстаўнікі ўкраінскага клуба "Легенда", за які гуляе беларуская абаронца Вікторыя Крылова, паведамілі, што адпусцілі спартсменку на гульню зборных Беларусі і Эстоніі (матч адбыўся 17 мая), але з той пары ад яе ні слыху ні дыху.

Старшыня камісіі па развіцці жаночага футбола Беларусі Валерый Якунін быў здзіўлены не менш: "Ну і ну! Самі ж яе праводзілі ў Чарнігаў".

Учора карэспандэнт "Народнай волі" высветліў, што Віку элементарным чынам знялі з цягніка на беларуска-ўкраінскай мяжы (спартсменцы споўнілася 25 гадоў, а яна не пераафарміла пашпарт), і зараз спадарыня Крылова "тусуецца" ў Мінску.

Чаму яна за гэты час нікому нічога не паведаміла — застаецца загадкай. Як кажуць, жаночая душа — пацёмкі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Ці прывязуць на Беларусь парэшткі воінаў-афганцаў з Беларусі?

Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане спрабуе адшукаць і перавезці на радзіму парэшткі 39 воінаў Віцебскай дэсантна-штурмавой дывізіі, якія загінулі ў 1981 годзе. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў намеснік старшыні Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане Уладзімір Баршчоў.

Ён расказаў, што нядаўна ў гарах Афганістана былі знойдзены абломкі самалёта, які разбіўся ў 1981 годзе і на борце якога знаходзіліся 39 воінаў-інтэрнацыяналістаў з Беларусі.

Зараз, паводле слоў У.Баршчова, Саюз воінаў-афганцаў сумесна з Расійскім камітэтам па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў робіць усё магчымае, каб адшукаць парэшткі гэтых загінуўшых. У найбліжэйшы час з Масквы ў Афганістан павінен вылецець самалёт са спецыяльнай групай пад кіраўніцтвам Руслана Аушава, якая зоймецца пошукамі. "Я думаю, што праз месяц-паўтара гэтае рашэнне будзе прынята", — сказаў Уладзімір Баршчоў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## «Дарыда» будзе без газаў

Унітарнае прыватнае прадпрыемства "Дарыда" плануе наладзіць выпуск звычайнай пітной вады без газаў з тэрмінам прыгоднасці адзін год.

Як паведаміў камерцыйны дырэктар прадпрыемства "Дарыда" Леанід Дакучаеў, выпуск, відавочна, будзе наладжаны да зімы гэтага года. Для гэтага да двух дзеючых цэхаў плануецца закупіць яшчэ адну лінію па разліву напояў, а вада будзе выпускацца ў новай па аб'ёме і дызайне ўпакоўцы. "Будуць два віды гэтай упакоўкі, больш сучасныя і цікавыя", — сказаў прадстаўнік прадпрыемства.

**Аляксей АРЭШКА.**

## «Канскія львы» прыйдуць у «Гудвін»

З 26 чэрвеня па чацвяргах у мінскім клубе "Гудвін" плануецца арганізаваць рэтраспектыўны паказ ролікаў — пераможцаў міжнароднага фестывалю рэкламы "Канскія львы".

Як паведаміў творчы дырэктар рэкламнага агенцтва "Крынь" Аляксандр Шавялевіч, ідэя рэтраспектывы "вырасла" са штогадовых паказаў ролікаў, якія "карыстаюцца ў публікі вялікай цікавасцю".

Плануецца, што ў клубе "Гудвін" пройдзе восем паказаў.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Нелегальныя мігранты з Турцыі ў Мінску

Тры нелегальных мігранты з Турцыі былі затрыманы 18 чэрвеня супрацоўнікамі аддзела пашпартна-візавай службы Ленінскага РУУС Мінска ў кватэры 67-гадовай пенсіянеркі.

Затрыманыя не мелі ўязных візаў і рэгістрацыі. У адносінах да іх і гаспадыні кватэры складзены адміністрацыйныя пратаколы. Вырашаецца пытанне аб дэпартацыі замежных грамадзян з краіны.

## На гомельскім рынку «Прудкоўскі» згарэла 16 кіёскаў

Вечарам 19 чэрвеня ў Гомелі на тэрыторыі рыначнага комплексу "Прудкоўскі" адбыўся пажар.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі, у выніку надзвычайнага здарэння згарэла 16 кіёскаў з таварам, размешчаных у аднапавярховай металічнай галерэі; быў таксама пашкоджаны дах галерэі. Паводле папярэдніх звестак, урон ад пажару склаў 12 мільёнаў рублёў. На тушэнні агню былі задзейнічаны 8 пажарна-ратавальных падраздзяленняў МНС.

Следча-аператыўнай групай РАУС устаноўлена, што падпал, на глебе непрыязных адносін з гаспадаром кіёска, які загарэўся першым, зрабіла 19-гадовая мясцовая жыхарка. Яна затрымана.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

БЕЗ ГРИМА

# «Саша и Сирожа»

***Шутам во все времена дозволялось многое. Их могли оскорбить, унизить, даже дать пинка, но шут имел один очень существенный козырь — он мог сказать о короле то, за что другому моментом снесли бы голову. Художник Алексей ХАЦКЕВИЧ ("Саша") и лидер группы "Ляпис-Трубецкой" Сергей МИХАЛОК ("Сирожа") наверняка шутами себя не считают, но тем не менее в их программах сначала на Первом музыкальном телеканале ("Калыханка"), а теперь на "Альфа-радио" ("Оперные рассказы") многие на полном серьезе улавливают иносказательное высмеивание вполне конкретных "королей"...***

— Ничего удивительного в этом нет, — мы беседуем с Алексеем в его небольшой мастерской на чердаке. — В облаках тоже каждый видит свой рисунок.

**— Алексей, чья была идея проекта "Саша и Сирожа"?**

— Наша с Сергеем Михалком. Я одно время учился в Республиканской школе искусств, и со мной занимались такие реальные персонажи, как Сирожа (так мы его и называли — через "и") и его брат Саша. Сергей и Саша приехали учиться из деревни, и было просто интересно наблюдать, как они реагируют на большой город. В беседе они, как говорят, не делали умное лицо, не стесняясь разговаривали на привычной им "трасянцы", и уже тогда возникла идея "Саши и Сирожы".

В 2000 году мы сделали о них мультик, Сергей Михалок озвучил его. Суть нашего первого "проекта", если говорить на языке оригинала, такая: "Пацаны хатели клей упатрэбить, но не знали как. Папробавали курыть ево — невкусна. Рэшыли упатрэбить клизмай и прыклеились к лавке теми местами, куда клизму делали. Карочэ, не упатрэбляйте, пацаны, клей, а то капец вам". Мультик по каким-то причинам так никуда и не запустили.

**— Наверное, цензуру не прошел. Она, кстати, существует на ваши диалоги?**

— Прежде всего есть наша с Сергеем внутренняя цензура — мы сами договариваемся, о чем в эфире говорить не стоит, неэтично и за что можно отгрести. Хотя один случай был. Записывали на видеокассету программы для эфира и здесь же решили сделать одну, что называется, "от балды". "Не для печати", как говорят. А Первый музыкальный канал взял и запустил ее на телевидение, после чего мы уже, честно говоря, подумывали о нашем закрытии.

**— Это ты о "Сказке про Царя и Пастуха"?**

— О ней, конечно. Это известная история о том, как царь решил искупаться в озере, где принимал "водные процедуры" пастух. Оба были похожи, после купания переоделись, и пастух из своего колхоза выбился в цари, но какой из него царь, если он всю жизнь колхозных коров пас. Мораль: вот что бывает, когда неграмотный человек берется не за свое дело. Мы рассказали это как сказку, а если кто-то что-то нашел в этом нецензурного или себя узнал, — это его проблемы. Никакого подтекста, во всяком случае, мы не подразумевали.

**— Но многие говорят, что ваша "трасянка" очень уж похожа на речь некоторых современных царей.**

— Да, а еще говорят: "Что ж это вы делаете, а? Главного героя Сашей назвали. Капец вам скоро будет, закроют". Сегодня я еще раз повторюсь, что идея "Саши и Сирожы" возникла под влиянием вполне реальных персонажей в 1986 году. И, если кому интересно, могу показать свои школьные комиксы, где эти герои говорят точно на таком же языке как, и сегодня, только еще и матом ругаются.

**— Но многие и на самом деле узнают себя в ваших диалогах, обижаются...**

— Нам, во всяком случае, никто претензий не высказывал. Могут сказать, что такая-то программа неинтересная или непонятная, но конкретных "фи" не было. Правда, когда на "Альфа-радио" стали рассказывать оперы, одна обиженная преподавательница музыкальной школы все-таки позвонила на радио: "Да как так можно?! Что это, — говорит, — вы там ерундой занимаетесь? Я рассказываю детям на уроках серьезные оперные темы, а они наслушаются вашей бредятины и только "рагочуть". Кошмар!".

**— Кстати, сами-то вы с Сергеем Михалком ходите в театр послушать эти самые оперы?**

— Я — хожу, хотя и не часто, потому что у меня там жена на скрипке в оркестре играет. В смысле редко хожу не потому, что жена там играет, а потому, что опера у нас и на самом деле — застойная! Опер этих — раздва и обчелся, гоняют по кругу одно и то же. И, пускай простят меня за субъективное мнение, такими уже голосищами поют — как "под димедролом".

**— Извини, но про вас тоже нередко приходится слышать: "Эти Саша и Сирожа байки свои часом не "под мухой" рассказывают?"**

— Разное говорят, но все это просто исключено. Были, конечно, моменты, когда мы перед записью передач могли себе позволить немного принять на грудь, но это же так... Для поднятия тонуса. А вообще-то и на самом деле некоторые считают нас немного не в себе из-за наших шутливых повествований на серьезные темы. Но это и есть наш стиль. И лично я для себя, когда в рамках проекта мы начали оперы рассказывать, очень много нового узнал. Всегда, например, думал, что Риголетта — это такая симпотная барышня, а это карлик-горбун оказался, не знал, что действия "Аиды" происходят в Египте. Да и многие люди сегодня не знают оперных сюжетов — вот и рассказываем их на радио в доступной форме.

**— Жена из дому не погнала после таких рассказов? Каквикак, а в некотором смысле задета ее профессиональная честь.**

— Если честно, то она просто очень сильно расстроилась, когда узнала, что мы с Сергеем начали делать такие оперные программы. Говорила мне:

*Сергей Михалок ("Сирожа") и Алексей Хацкевич ("Саша") (справа) — во всей своей красе.*

"Рисуй ты лучше, а не занимайся идиотизмом". А затем посмотрела, что у нас получается, послушала и ничего — остыла.

**— А кто вам пишет тексты? Где берете темы?**

— Никто не пишет — это импровизация чистой воды. Перед записью мы, конечно, оговариваем, о чем пойдет речь, делаем какие-то пометки, создаем каркас беседы. Все остальное — наше творчество. Причем обычно делаем программу без дубляжа, с первого раза. Что касается тем, то здесь мы тоже не мудрим — все темы из жизни. Мы же не только сказки рассказываем, у нас есть и научно-познавательные программы. Например, рассказывали о пользе хлеба, о том, как быть хорошим, как пчел разводить...

**— ...Как разводить?**

— Как-как?.. Пчелы же мед дают — надо их брать и разводить.

**— Понятно... Алексей, а не жалко было переходить с Первого музыкального канала на "Альфа-радио". Раньше вас видели, был свой имидж, сейчас — только слышат.**

— Уходить надо было в любом случае. Во-первых, лично меня не устраивала общая атмосфера на Музканале, во-вторых, наша "Калыханка" на телевидении становилась предсказуемой. Нужно было что-то менять.

**— То есть вы все-таки не "политические", и слухи о том, что вас "ушли" с телевидения, насколько я понял, сильно преувеличены?**

— Во всяком случае, на нас никто сверху не давил. Более того — нашу программу признали открытием года (даже грамоту дали). А когда мы сказали руководству Музканала о том, что прекращаем работу у них, то последние были искренне удивлены.

**— "Саша и Сирожа" в проекте и в жизни — разные люди? Или ты берешь что-то для себя от своего персонажа, Михалок — от своего?**

— Скорее наоборот. Больше мы их насыщаем знаниями, и они становятся все эрудированнее. В каких-то моментах мы со своими персонажами похожи. Я, например, по жизни все время говорю так, как "Саша". Причем это такой язык, что после общения с тобой и твой собеседник медленно, но верно начинает переходить на "трасянку". Так-к-кая зараза!

**— Алексей, кроме всего прочего ты еще и художник, и мультипликатор. Одно другому не мешает?**

— Думаю, что помогает. "Саша и Сирожа" считают, что "творчаская личнасть далжна быть мнагагранай".

**Алесь СИВЫЙ.**

